Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 3. Вільня, 19 сакавіка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |




## НАШ ШЛЯХ.

Падымаючы свой голас у імя братэрскага сужыцьця і супрацоўніцтва народаў нашага краю, мы добра разумеем, якую трудную задачу мы сабе паставілі. Мы ведаем, што на шляху нашае працы нам прыдзецца спаткаць шмат перашкодаў.

Бо што значыць ісьці сягоньня ў народныя масы з словам і весткаю нацыянальнае згоды?

Гэта значыць, кінуць перад усім рукавічку палітычным спэкулянтам і дэмагогам, шовіністым усіх масьцяў і колераў, якія распладзіліся ў нашым краі і жыруюць на горы і няшчасьцях народных Так. Ісьці сягоньня змагацца з чадам ненавісьці, якая труціць душу і розум народны, — гэта значыць падымаць справу векавую, рваць ланцугі гістарычнае няволі і несправядлівасьцяў. Гэта значыць кідаць думку, якая сягоньня не зьяўляецца яшчэ популярнай, а толькі ў будучыні можа прынясьці плод.

Удумайцеся глыбока, чаму сталася так, што паляк і беларус, паглядаюць сягоньня спадлобьбя адзін на аднаго, а часам даходзіць нават да таго, што брат брату гатоў з-за вугла ўсадзіць у сьпіну нож. Удумайцеся глыбока, чаму шовінізм ахапіў пэўныя колы польскага і беларускага грамадзянства і ці толькі адна палітыка польскіх урадаў вінавата ў тым, што на „Крэсах", пакуль што, так дрэнна?

Той, хто хоча быць справядлівым, хто хоча адшукаць карэньні нашае нягоды, хто шчыра жадае дабра народу, — мусіць глядзець троха глыбей і бачыць ня толькі прыкрую сучаснасьць, але і мінулае. І вось, мы кажам: векавая няволя, расейскі царызм з яго палітыкаю, якая накіравана была на тое, каб трымаць наш край у цемры, каб душыць усё жывое, паступовае, стварыў той падатны грунт, на якім вырасьлі гэтыя ядавітыя кветкі нашае нацыянальнае вартасьці. Ня трэба шмат аб гэтым гаварыць. Досыць успомніць ката Мураўёва і мураўёўшчыну, галоўнаю мэтаю якое было разьбіць згоду паміж народамі нашага краю і нацкаваць беларусаў на палякоў. Палітыка гэтая, палітыка нацыянальнае ненавісьці, вялася сыстэматычна рознымі насаджанымі русіфікатарамі і чорнасоценцамі, і бязумоўна яна дала свой плод. Тая дэморалізацыя, якую мы бачым сягоньня кругом у нашым палітычным і грамадзкім жыцьці, той шовінізм, які губіць нашыя сілы — карэньні гэтае хваробы глыбока ўрасьлі ў наш грунт. І хто хоча вырваць гэтыя карэньні, той мусіць разумець, што яны насаджаны мінулаю няволяю. З перажыткамі гэтае няволі, з тою мураўёўшчынай, якая засталася яшчэ ў нашай душы і сэрцы і якая хоча перафарбаваць сябе на „чырвоны" колер—у першую чаргу трэба весьці змаганьне і гэтае змаганьне труднае, бо няволя нашая цягнулася вякамі.

Эканамічны і культурны занялад, цемра народ-

ная, — ўсё гэта бярэ свой пачатак у мінулым. Потым вайна, якая дашчэнту зруйнавала нас, потым розныя окупацыі, голад і галіта — ўсё гэта бязумоўна было саюзьнікам шовінізму і нацыянальнага эгоізму і вельмі спрыяла палітычным спэкулянтам, якія, ў пагоні за мінутнымі лаўрамі, так скора забылі аб царызьме і ўва ўсіх бедах гатовы былі вінаваціць або толькі адно польскае грамадзянства, калі справа ходзіць аб спэкулянтах — беларусах, або вінавацілі толькі адных беларусаў, якіх агульна залічвалі да бальшавікоў,—калі справа ідзе аб палітычных спэкулянтах польскіх.

Не выступаем тутака ў абарону а ні польскага, а ні беларускага грамадзянства. Лічым, што віна і бяда наша тут агульная. Не выступаем таксама і ў абарону польскіх урадаў, і адкрыта кажам, што палітыка іх была дрэнная, як у справе нацыянальнай, так сама і ў справе аграрнай (зямельная рэформа), асадніцтве і г.д. Палітыка гэтая магла-б нават загубіць самую ідэю незалежнасьці і дзяржаўнасьці былых у няволі народаў, каб у свой час здаровыя народныя сілы ня выступілі і не палажылі канца разгулу дэмаралізацыі ў нашым краі. І вось сягоньня мы бачым, што як сярод польскага, так сама і сярод беларускага грамадзянства пачынаецца крызыс, пачынаецца пералом. Ідэі ненавісьці і шовінізму, як ідэі ад'жыўшыя выкідаюцца на сьметнік, пачынаецца працэс аздараўленьня затручанага арганізму, пачынаецца той рух, які быў пачаты сто гадоў таму назад у гуртках „філёматаў“ і „філярэтаў“, які прайшоў праз агонь 1863 году, і які мусіць урэшце запанаваць у нашым краі, скрышыўшы ўсе перашкоды і труднасьці, якія стаяць на яго шляху. І калі мы ідзём сягоньня ў беларускія народныя масы з думкамі і словам братэрства народаў, то робім гэта дзеля таго, што перакананы ў перамозе высокіх ідэалаў над нізкімі інстынктамі шовінізму і нацыянальнага эгоізму, перакананы ў тым, што толькі супольнымі сіламі і супрацоўніцтвам на ніве палітычнай, эканамічнай і культурнай удасца ўрэшце вывясьці край на сьветлы шлях адраджэньня і свабоды.

---

## ДА БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА!

Наша газэта — незалежна-сялянская.

Яна будзе:

баранiць палітычныя правы беларускага селяніна;

баранiць народную беларускую культуру;

баранiць беларускую школу;

памагаць селяніну ў яго працы агранамічнымі, сельска-гаспадарчымі і юрыдычнымі парадамі;

памагаць селяніну ў яго барацьбе за зямельную рэформу;

змагацца з рознымі злачынствамі і гвалтамі над селянінам;

перасьцерагаць сялян перад рознымі палітычнымі спэкулянтамі і ашуканцамі;

высьвятляць усебакова жыцьцё селяніна-Бе-

---

# Успаміны з Пэрсіі.

## I.

Пасьля доўгай блытаніны па ўсяму амаль гэтак званаму паўночна-заходняму фронту, на пачатку вясны 1916 году, папаў я са сваім аддзелам самаходаў у прыгожы і багаты маёнтак у аколіцах гораду Рыгі. Маёнтак гэны, пад назовам „Альт-Шванэнбург“, быў маемасьцю нейкага нямецкага барона.

Месца для пастою было гэткае, што лепшага і жадаць ня можна.

Аграмадны палац барона, каторы ў самым пачатку вайны ўцёк з Расеі і ваяваў ў шарэнгах нямецкага войска, быў ужо трошкі абшчыпаны вайною і я выкарыстаў яго, як казарму, разьмясьціўшы ў ім усю сваю каманду.

У іншых будынінах маёнтку знайшлося даволі месца для памяшчэньня кухні, майстэрні, складу самаходных прыладаў і матар'ялаў і іншага вайсковага маёнтку каманды.

На адлегласьці ня больш 200 крокаў ад палацу, ў парку, акружаючым яго з усіх бакоў, выбівалася з-пад зямлі крыніца чыстай, сьцюдзёнай вады, якая з гоманам і шумам зьбягала з узгорку і, срэбнай стужкай праплываючы паміж зялёных сенажацяў, улівалася ўрэшце ў возера, раскінутае ў нізіне, быццам аграмаднае люстра ў зялёнай раме лясоў.

Папаўшы сюды, пасьля цяжкіх варункаў жыцьця падчас апошняга адступленьня, здалося мне, што я папаў у рай. Гоман лясоў, шум рэчкі і шэпт ціхі разбуджанай з зімовага сну і мкнучай да буйнага жыцьця прыроды, вырвалі мяне з абняцьцяў штодзеннага жыцьця, зьвязанага моцна з крывавай драмай змаганьня народаў і пераносілі мяне ў знаёмыя куткі дарагой бацькаўшчыны, навяваючы мары мінулых, ціхіх, спакойных дзён. Аднак гэная ідылія трывала нядоўга. Хутка гукі блізкіх гарматніх стрэлаў зноў вярнулі мяне да штодзённага вайсковага жыцьця, поўнага клопатаў, няпэўнасьці і гарачкі.

І гэнае штодзённае жыцьцё рабілася з кожным днём усё больш і больш прыкрым.

ларуса, як у Польшчы, так сама і ў Раднай Беларусі.

Найлепей мы можам выканаць нашыя задачы толькі тады, калі нашую газэту селянін будзе чытаць і сам пісаць, калі рэдакцыя будзе мець у розных кутках краю сваіх людзей: корэспондэнтаў, падпісчыкаў, сымпатыкаў.

Сяляне! Трымайце сувязь з нашаю газэтаю,
выпісвайце яе,
пішэце корэспондэнцыі,
пашырайце „БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ".

## ПАМЯЦІ ПОЭТА.

Ціха бяз шуму, як сонца бліскучае,
Зьнікла раптоўна за кучаю хмар —
Вырвала душу нядоля балючая,
Страціў жыцьцё ты, наш родны пясьняр.
Усё, што любіў ты душою поэта,
Больш для цябе ня істнуе ўжо век —
Змоўк без пары, не дасягнута мэта,
Зьлёг, як трава пад касой, — чалавек.
Зычныя водгукі думкі свабоднай
З вусн не пальлюцца да сонца, да зор;
Жальбавых песьняў нядолі народнай
Больш не пачуе радзімы простор.
Сьціхла вясновая песьня маёвая,
Зьвяў расквітнеўшы прыгожанькі цьвет,
Моцна зачынена скрыня хваёвая —
Сьпіць малады адраджэнец, поэт.
Скаргаў пакуты ня будзе больш чуці
Бедных спрадвеку гаротных братоў,
Сэрца любоўю ня будзе гарэці,
Родных, бадзёрных ня скажа ім слоў.
Сьпі-ж пясьняр наш пад сховам магілы!
Шчыра служыў ты для нас, як умеў,
Покі хапала ў грудзёх тваіх сілы.
Сьпі, брат, спакойна, твой дзень дагарэў.

Міхась Васілёк.

## Алесь Гарун.

(*Успамін у 20-я угодкі з дня яго нараджэньня*).

Першы раз я ўбачыў нябожчыка Алеся Гаруна, калі адбываўся Ўсебеларускі Конгрэс, г. знач. у сьнежні 1917 году.

У менскім гарадзкім тэатры адбываўся пленум Конгрэсу. Старшыня, даючы слова Аляксандру Прушынскаму (праўдзівае імя Гаруна), зарэкамандаваў яго вялікаму Народнаму Сходу.

І ўмеў такі гаварыць наш нябожчык-поэт. А час быў такі, што вар'ята сярод беларусаў можа й лягчэй было-б знайсьці, як інтэлігэнта, які гаварыў-бы пабеларуску. Нас, гаварыўшых роднаю моваю, на Конгрэсе было ўсяго некалькі чалавек. І сярод гэтых некалькіх адзінак Алесь Гарун выдзяляўся тым, што найлягчэй з роднаю моваю спраўляўся.

Аб Прушынскім, як поэце, я пісаў у 1921 годзе ў „Нашай Думцы". Цяпер мне хацелася-б сказаць аб ім, як аб чалавеку.

Падчас таго самага Конгрэсу я пазнаёміўся з Гаруном і фармальна.

Я не ведаў тады аб яго цяжкай хваробе, ня ведаў, што точаць яго сухоты, і мне неяк адразу кінулася ў вочы нязвычайная духовая роўнавага даволі высокае, тонкае чалавечае фігуры, каменны спакой зямлістага на колер твару, на якім я ніразу не ўлавіў хоць-бы найменшага руху мускулаў. Поэт насіў даўжэнны сыбірскі *тулуп*, па якім як-бы й відаць было, скуль ён вярнуўся на Бацькаўшчыну. У гутарцы з вамі нябожчык неяк пасвойму—роўненька, спакойна гаварыў свае словы і словы гэтыя гаварыліся з гэткім лагодным манерам, што дзівіцца толькі трэ' было яго прыроджанай нейкай інтэлігэнтнасьці.

---

Насам перш пагода разам перамянілася. Пасьля цёплых, ясных, прыгожых, чыста вясновых дзён у канцы красавіка пайшлі дажджы і пачаўся холад. Дарогі гэтак разьмяклі, што праца маіх самаходаў зрабілася проста немагчымай.

Каманды, пасыланыя на работу, варочаліся назад з папсованымі самаходамі, якія ўгразалі да восяў на глiністай дарозе і толькі дзякі над'звычайным, проста нялюдзкім, высілкам жаўнераў, каманда мая магла, пакуль што, выпаўняць усе прыказы, выносячы іншы раз на руках машыны, загразшыя ў балоце.

Пад канец і гэныя нялюдзкія высілкі людзей нічога не маглі памагчы. Палова машынаў стаяла папсованых і ніякія прыказы начальства не маглі зрушыць іх з месца.

А начальства я меў шмат! Беспасрэдным начальнікам маім быў камандзер мае самаходнае роты, ад каторага я і павінен быў, паводлуг закону, адтрымліваць усе прыказы. Але зложылася так, што са штабам сваім ён стаяў недзе далёка, і вось валадаром маім зрабіўся загадчык самаходнай часьці арміі, нейкі палкоўнік Прышчэўскі, які даваў беспасрэдна мне нарады, паміма камандзера роты.

Прышчэўскі, які ніколі ня меў ніякага дзела з самаходамі, зусім ня мог сьцяміць, што для рацыянальнага выкарыстаньня самаходаў патрэбна добрая шаша, альбо цьвёрдая грунтовая дарога, на якой самаходы могуць працаваць запраўды карысна. Баявы пяхотны афіцэр, ён прывык камандаваць толькі жаўнерамі, якім трэба было толькі даць прыказ і жаўнер мусіў яго споўніць альбо ўмерці, — і забываў аб тым, што машына — не чалавек, сьмерцяй яе не напужаеш і больш работы, чымся ёй назначана інжынерам, што збудаваў яе, яна, ня гледзячы на ўсе прыказы, ня зробіць.

Калі я некалькі разоў зьвяртаў яго ўвагу на гэта, дык ён пачынаў сердавацца, і, кінуўшы яшчэ больш начальніцкім тонам: „я прыказваю", ні аб чым болей не хацеў слухаць. Гэткае камандаваньне скончылася тым, чым мусіла скончыцца. Адзін раз, калі ён загадаў мнё паслаць на работу 20 самаходаў—я знайшоў здольных да працы толькі 15, якія і паслаў да штабу арміі.

І гэтая рыса яго характару была аднолькавай заўсёды, незалежна ад таго, дзе мне даводзілася яго бачыць: за сталярскім варстатам побач з рэдакцыяй „Вольнай Беларусі“ на Захараўскай вуліцы 9, дзе ён жыў, на паседжаньні, калі старшыняваў у менскім нацыянальным камітэце, у друкарні пры выпуску першае штодзеннае газэты „Беларускі Шлях“, якую рэдагаваў Прушынскі і ў якой я рабіў (а праўдзівей—вучыўся рабіць) карэктуру, даючы туды і рэцэнзіі аб беларускіх спэктаклях, якія менская моладзь беларуская ладзіла больш, як часта, бо ніводнае напэўна сьвята, ні адна субота не абходзілася без таго, каб недзе ня гралі беларускія артысты. Ой, ня тое цяпер тут у Вільні!

Аднаго разу толькі ўдалося мне бачыць на Гаруновым твары праўдзівы мамэнт шчасьлівай усьмешкі. Неяк у друкарні Грынблята я пачаў разьбіраць яго верш „На Віціме“, выказваючы проста пашану да яго таленту. Алесь Гарун усьміхнуўся. Толькі таго... Але гэтым разам я заўважыў, як ажывіўся яго вечна-ледзяны твар... на мяне глянулі вочы поэта. Ён заўсёды мне раіў пісаць якнайболей і меней плёхацца ў палітыцы.

Магу з пэўнасьцю сказаць, што хворая натура нябожчыка Гаруна душу мела зусім здаровую. Зусім неваенны чалавек ён быў выбраны старшынёю Беларускае Вайсковае Камісіі—гэтага дзівачнага „совдэпу“ ў нашай нацыянальна-вайсковай штуцы. Пры гэтай камісіі лічыўся нечым інспэктар бышага віленскага ваеннага вучылішча палкоўнік гэнэральнага штабу Кальвэйт (немец). Гэты палкоўнік зрабіў цэлы плян адбываньня ў Беларусі вайсковае павіннасьці і зрабіў так, як-бы Беларусь была ўжо зусім незалежнаю дзяржаваю. Кальвэйт далажыў свой плян старшыні Прушынскаму. Пасьля я часта чуў, як вучоны палкоўнік казаў: „Ну, вось—Прушынскі. Ён не вайсковы, але ён разумны чалавек і на-дзіва інтэлігэнтны“.

Ды не давялося Прушынскаму будаваць нацыянальных адзЗелаў. Сухоты адарвалі яго ад гэтае, праўда досіць няўдалае, нашае справы і, працуючы ў камісіі, я ніразу яго ня бачыў за ўсесь час лета 1920 году, праведзены ў Менску.

У сярэдзіне ліпня 1920 году мне давялося бачыць Алеся Гаруна ў часе польскага адступленьня ад Беразіны ўжо ў Ваўкавыску. Помню нас некалькі чалавек—адпачывалі сабе ў нейкім ваўкавыскім доміку. Былі, апрача мяне, там сябар камісіі Аўсянік, вураднік Міхалевіч і, здаецца, капітан Кушаль (тады ўжо старшыня камісіі). Зайшоў і Прушынскі: відочна хворы, жаліўся на жывот, казаў, што ад смагі еў ў цягніку вішні. Коратка было вырашана памясьціць Гаруна ў які-нібудзь санітарны цягнік. Але хто тады думаў, што мы бачымся з ім апошні раз! Каюся, я нават, па звычаю свайму, нешта вострае аб „вішнёвай“ (як мне здавалася) хваробе свайго парнаскага колегі тады выпаліў, пэўна-ж верачы ў тое, што ўсё было глупствам і спадзяючыся хуткага яго выздараўленьня. Але-ж ня тое мусі чуў тады поэт! Ён нават і не спрабаваў усьміхнуцца падчас нашага апошняга разьвітаньня..

27 мінулага лютага (на стары стыль) споўнілася 40 гадоў з дня нараджэньня Прушынскага; радзіўся ён у 1887 годзе ў Менску ў сям'і чорнарабочага, як сказана ў „Гісторыі літэратуры“ М. Гарэцкага. Маючы 5 гадоў навучыўся чытаць папольску і памаскоўску. На сёмым годзе жыцьця пачаў хадзіць у 3-ю прыходзкую школу (вучылішча), прасядзеўшы ў 3 аддзяленьні два гады, таму што як недалетку, яго не дапушчалі да экзаменаў. Скончыў ён гэту школу у 1897 г. і, пачакаўшы спаўненьня гадоў, паступіў

---

Але з гэтых 15-ёх толькі дзесяць дайшло да месца назначэньня, а пяць, заграшных у балоце і папсованых, толькі назаўтра прывязьлі ў каманду.

Невыпаўненьне прыказу нарабіла шуму. Прышчэўскі пагразіў мне судом. Але калі я высьвятліў усю справу палкоўніку Сысунову (гэткае прозьвішча меў камандзер мае роты), то ён прыказаў мне без свайго загаду ніякіх машынаў нікому не даваць і справа на тым і скончылася. Усьцешыўся я, але не надоўга.

Праз тры дні я зноў адтрымаў прыказ ад Прышчэўскага аб высылцы самаходаў. Адтрымаўшы яго я зараз выклікаў палкоўніка Прышчэўскага да тэлефону і выдажыў яму прыказ свайго камандзера роты.

— Каго-ж мне слухаць, пане палкоўніку? — пытаўся я, — вас ці свайго камандзера?

— Аб гэным прыказе Вашага камандзера я ведаю, — адказаў Прышчэўскі. — А калі вы, кажа, ня ведаеце каго слухаць, дык спрабуйце ня выпаўніць майго загаду.

Становішча маё было надта дрэнным. Я зараз выклікаў да тэлефону свайго камандзера і расказаў яму, ў чым справа. Сысуноў выслухаў мяне, злаяў палкоўніка Прышчэўскага і кончыў гэткай парадай:

— Гэты, кажа, с—н сын Прышчэўскі нешта напутаў; выпаўняць павінны вы толькі мае загады, так распарадзіўся начальнік штабу... А вы вось што зробіце: самаходаў, пакуль што, не давайце, а я па тэлефону разгаваруся з ім і выясьню ўсю справу.

— „Ну, — думаю, — паны б'юцца а ў хлопцаў чубы трашчаць“. Каб зразумець маё палажэньне ў гэным прыпадку, трэба ведаць, што знача прыказ і да чаго вядзе невыпаўненьне яго ў абставінах вайны на лініі фронту.

— „Не знасіць мне галавы“, — падумаў я і, чакаючы весткі ад Сысунова, заняўся ў канцэлярыі пераглядам сьвежай пошты. Перакінуўшы некалькі пустых папераў, я з нуды пачаў чытаць апошні загад па роце, ў якім, паміж іншым, камандзер загадвае, што калі хто з афіцэраў хоча перавясьціся ў дзесятую самаходную роту, што стаіць у Пэрсіі, то павінен безадкладна напісаць аб гэным рапарт.

у 1899 годзе ў рамесьленую менскую школу, якую скончыў, як сталяр, у 1902 г.

Далей пайшло цяжкае гаротнае жыцьцё поэта самым найфатальнейшым шляхам Не дарма ён выбраў сабе псэўдовім—Гарун. Падробней з яго біографіяй і творчасьцю кожны беларус можа азнаёміцца, прачытаўшы „Гісторыю Беларускае Літэратуры" М. Гарэцкага (выд. Б. Клецкіна. Вільня 1921 г.).

З 16-х гадоў Гарун працуе, як сталяр. У 1904 г. ўваходзіць у арганізацыю социялістых-рэвалюцыянэраў, Церпіць *правал* і ў нелегальнай друкарні яго накрывае царская паліцыя... менскі астрог, пасьля нашы віленскія „Лукішкі". Вясною 1908 г. суд, катарга, замененая ссылкаю, якую ён адбываў у Сыбіры 9 гадоў і вярнуўся стуль, толькі дзякуючы лютаўскай расейскай рэвалюцыі.

І якая іронія лёсу! Вярнуўшыся ў Менск і маючы ашчаджаныя ад свайго сыбірскага заробку невялікія грошы, Прушынскі ўлажыў іх у запушчаную беларускую кнігарню. Заходзячы туды да яго і няраз застаючы разам з яго, гадкоў 12-цёх, брацікам за міскаю убогае заціркі, я жартуючы называў яго „Фаўстам". Поэт толькі лёгка усьміхаўся на гэта.

Бальшавікі не пастыдаліся „знацыяналізаваць" кнігарню социялістага-рэвалюцыянэра і перавезьці яе ў „Белтрэстдрук". Укладзеная туды праца поэта і яго працоўныя грошы—усё разам ляснула...

Але жыў ён віхрам Беларускае грамадзкае працы і віхар гэты закінуў яго ў адзін з вайсковых шпіталяў Кракава. Там 28-га ліпня 1920 году ён адыйшоў навекі туды, дзе няма ні Лукішак, ні Сыбіраў, ні рэвалюцыяў, ні нацыяналізацыяў...

З Лодзі, калі прабывала там Бел. Вайсковая Камісія, дык была ў Кракаў камандзіравана Паўліна Грыбіха-Мядзёлка, якая ледзь знайшла яго сьвежую яшчэ тады магілку.

Ці ведае яе хто з беларусаў сягоньня?

*Краўцоў Макар.*

МАЛЕНЬКІ ФЭЛЬЕТОН.

## Ня можна шыць усе боты на адзін капыл.

Яшчэ прад вайною Вільня была вялікім горадам, а пасьля вайны, як далучылі да гораду частку сумежных прыгарадных вёсак — Вільня зрабілася яшчэ вялікшай. Пасярэдзіне гораду палацы, тратуары са сьцежкамі і алеі, электрычнасьць, народ кішыць, як мурашкі ў мурашніку падчас пагоды—і днём і ўночку шум, грукат і таўкучка.

А на ваколіцах—хаты, гразь,цемра і з заходам сонца, калі сярэдзіна Вільні зігаціць агнём, кішыць народам і гуляе, дык — у ціхіх і цёмных яе ваколі- усё сьпіць ужо моцным сном.

Адно, што роўна для ўсяе Вільні—гэта падаткі і законы.

І вось адзін раз, выйшаў такі для ўсяе Вільні закон, каб а гадзіне 10-ай увечары ўсе вароты былі пазачыняны. Гэта знача затым, каб людзі маглі спакойна спаць, не баючыся зладзейства.

Мэта добрая—няма чаго сказаць.

„А хто ня споўніць, гэнага закону",—казалаўлада, — „таму напішуць пратакол і наложаць штрафу".

Дзеля таго, што ў тым часе якраз залішне пачала гуляць нейкая наезжая ў Вільню шайка малайцоў—было наказана пільна дбаць аб выпаўненьні гэнага закону.

Вялікае начальства прыказала меншаму, меншае— яшчэ меншаму і гэтак далей, ажно, адтрымаўшы прыказ, самае найменшае начальства прылажыла руку да казырка шапкі і, крыкнуўшы службова: „rozkaz!" стукнула абсацамі, павярнулася на пятах і пайшло выпаўняць прыказ. Прыйшло аж у ваколіцу. А ў той час пачаў марасіць дождж, неба завалакло хмарамі— зрабілася цёмна, як у пекле.

Як тут выпаўніць прыказ, калі ня толькі ня можна разглядзець, ці зачынены вароты ці не — але і самых варотаў ня ўбачыш? І ўздыхнула туткі

— Вось, думаю, адзіны выхад з палажэньня: Пэрсія, краіна рожаў і сонца!

Глянуў я праз вокны. На двары гуляў вецер; неба завалаклі густыя хмары; сіпеў паскудны дробны дождж. Выстраеныя ў дзьве шарэнгі цяжкія самаходы, атуленыя мокрым брэзэнтам, з якога цюркам сьцякала вада, маркотна глядзелі ў шэрыя далі вачыма сваіх ліхтарняў. Каля іх у балоце капаліся жаўнеры, азябшымі, мокрымі рукамі рыхтуючы машыны.

А там у Пэрсіі тымчасам сонца сьвеціць, цьвітуць рожы і цёпла там, ой цёпла мусіць быць цяперака!

І вобраз гэнай, поўнай сонца і рожаў, паўднёвай краіны, як ясная мара, стаяў грамадаю і клікаў і маніў да сябе.

Думкі гэныя спыніў званок тэлефону, да якога выклікаў мяне камандзер роты.

— Вось, што, — казаў ён, — з гэным Прышчэўскім ніякага толку не даб'ешся, так што вы якнебудзь самі зьмяркуйце, — гэтак скончыў ён нашу гутарку. Але я ўжо зьмеркаваў; трэба хутчэй пісаць рапарт пакуль яшчэ пад суд не папаў ды ехаць, ехаць, як мага далей ад гэнага холаду, бездарожжа і гульні начальнікаў, ад якой застанешся ня толькі без чуба, але і без галавы.

— Карапэт, паедзеш ў Пэрсію?—зьвярнуўся я да зусім яшчэ маладога жаўнера, армяніна, шофэра з цяжкага самаходу, якога вайна з далёкага Каўказу закінула аж сюды.

Бедны хлопец вельмі тужыў да свае бацькаўшчыны, да гораў з белымі сьнегавымі шапкамі і ўлетку і зімою, да свайго вінаградніку, да бацькоў і братоў сваіх. Ен толькі-толькі вярнуўся з работы, на якой прабадзяўся цэлы дзень і цяперака, седзячы пры печцы, разаграваў азябшае цела.

— Паедэм, вашэ благародіе, паедэм: Пэрсыя -- очэн харашо. Заедэм да мэнэ, ваша благародіе, на **Кавказ**, там я хазаін,

наша беднае самае найменшае начальства і пачало праклінаць сваю злую долю.

І трэб-ж было ехаць з роднай далёкай вёскі ў гэны дзікі край, каб цяперака стаяць туткі ў балоце і мокнуць у цемры пад дажджом!

— Вось і пашырай тут культуру, калі паскудных нават варотаў знайсьці ня можна... Дзіўны народ—не разгадаеш яго. Адны называюць сябе палякамі, іншыя беларусамі, а паводлуг мяне, дык ўсе яны разам адно толькі быдла і бальшавікі.

І вось калі гэтак прамочанае амаль да ніткі самае найменшае начальства, кляло і сваю злую долю, што закінула яго ў гэны дзікі край і гэных нязнаных яму людзей, якіх ні яно не магло добра разумець і якія таксама і яго не разумелі, раптам маланкаю праляцела ў яго галаве думка: „А як-жа быць з прыказам? Калі ня споўніць яго — не пахваляць“.

Задумалася маленкае начальства, засупілася і, хутка намеціўшы плян працы, пачало мацаць платы рукою.

Абмацала адзін плот, наткнулася на вароты, Але вось гора—вароты зачынены на нейкую зачэпку.

Каб адчапіць толькі — пратакол быў-бы гатовы. Але як на злосьць зачэпка не гаддаецца і як адчапіць яе ў цемры—не згадаеш.

Няма чаго рабіць. Пачало самае найменшае начальства мацаць другі плот і раптам амаль ня крыкнула з радасьці.

Чуе пад рукою: нейкі слупок, а за ім пуста, — а далей другі слупок і на ім вароты вісяць, запраўды незачыненыя вароты.

Усьцешылася туткі наша самае малое начальства: насупіла бровы і, падцягнуўшы падпружку ад шапкі под бараду, — ўвайшло службовым крокам у двор і стукнула ў ваконца гаспадарскай хаты.

— Хто там таўчэцца по начы?! — азваўся з хаты заспаны, нездаволены голас.

— Гэта я, паліцэйскі,—адчынеце!

У хаце пачуўся некі шорах, пачакаўшы трошку, ціхі шопат, плач дзіцяці, тупат босых ног па падлозе і праз хвіліну ў ваконцы блiснула жоўтае сьвятло ліхтарні, шукаючы твару таго, хто гэтак недарэчы сваім стукам зьнепакоіў сям'ю.

— Адчыняйце дзьверы!—прыказваў няпрошаны госьць.

Гаспадар, пазнаўшы паліцыю, адчыніў дзьверы і ўпусьціў гасьця.

— Чаму варот на-нач не зачыняеце? — пачаў той ад парога.

— Якіх варот?

— Як гэта якіх ?.. звычайных варот.

— Ды ў мяне ніякіх варот няма.

— Няма? Бяры, панок, ліхтарню, дык я пакажу, якія вароты.

Гаспадар апрануў кажух, абуў на босыя ногі боты, ўзяў ліхтарню і яны выйшлі з хаты.

— Вось якія вароты! — гукнула настаўніцкім тонам начальства, прывёўшы гаспадара да слупка, на якім хісталася на аднэй пятлі калыханых ветрам некалькі паломаных дошчак.

— Паночку, якія-ж гэта вароты? — тлумачыўся гаспадар.

— А што-ж гэта такое, калі не вароты?

— Што гэта?... адно цьфу і нічога болей.

— Калі гэта не вароты, то дзе-ж вашы вароты?

— А так, папраўдзе кажучы, варот ніякіх і няма ў мяне: гляньце: платы скрозь паразьбіраны, калі і так адкуль хочаш зайсьці можна, навошта-ж мне вароты?

— А вы кудэма ўязжаеце ў двор?

---

вынаградных імэю і выно, ох какой выно, настаяшчае вынаграднае.

— Гэта ты аб Каўказе гаворыш, але ў Пэрсіі як?

— Очэн, очэн харашо!

— І ты паедзеш са мною?

— Дажэ очэн паеду.

— Ну, добра.

Я сеў і зараз-жа напісаў рапарт аб пераводзе.

Прайшло больш як два месяцы, пакуль прыйшоў прыказ ехаць.

Пагода тады была прыгожая, сонца парка грэла, дарогі павысыхалі, з начальнікамі сваімі я паладзіў, пагадзіўшы іх пры чарцы гарэлкі і вялізарнай місцы ракоў, якіх шмат было ў нашым возеры і якіх абодва яны вельмі любілі.

Дзеля гэтага пэрспэктыва падарожы ў Пэрсію ў якой я ведаў, лета бывае шмат цяплейшае, чым у нас, цяперака не маніла мяне. Але адбой даваць было ўжо нельга. Цяперака ўжо ня пыталіся, ці маю ахвоту, але ў прыказе стаяла ясна напісана:... „прапаршчыку гэткаму і гэткаму прыказываю ехаць ў дзесятую самаходную роту“... і годзі.

— А ты, Карапэтка, не раздумаў ехаць у Пэрсію? — зноў зачапіў я Карапэта.

— О, нэт, дажэ очэн нэ раздумал.

Праз два дні мы ўжо з Карапэтам выехалі: ён да сваіх бацькоў на Каўказ, недзе ў ваколіцы Тыфлісу, а я пабачыцца з жонкай і малым сынам. Праз 12 дзён умовіліся мы з ім спаткацца ў Тыфлісе і адтуль у Пэрсію мeліся ехаць разам,

У які куток Пэрсіі нас закінe доля — мы ня ведалі: месца быцьця павінны нам былі вызначыць у Тыфлісе ў штабе арміі.

**Дзядзька Пранук.**

(Працяг будзе).

— Шак вядома — паміж гэнымі слупкамі, бо туткі якраз масток праз канаву.

— Вось гэта, паводлуг закону, і ёсьць вароты і іх трэба зачыняць на-нач, а дзеля таго, што вы іх не зачынілі — будзе пратакол.

— За што, пане начальніку, — дзіваваў гаспадар,—гляньце, ўсе бяз мала суседзі варотаў ня маюць.

— Хто-ж такі ня мае?

— А вось хоць-бы Сьцяпан Баравік, Янка Гармяністы і Пятрук Казёл, і Ляксандра Бабраўская — ня маюць варот.

— І вы гэта можаце пасьведчыць?

— Ды ўся вёска тое самае скажа — платы паразьбіраны, дык навошта ім вароты?

— Ну добра, пойдзем да хаты.

У хаце начальства села за столік, запісала пратакол і, прачытаўшы, сунула падпісаць гаспадару.

Той падпісаў, бо ўсё, што ў ім было напісана, магла пацьвярдзіць хоць уся вёска.

Праўда, у пратаколе гэным ня было сказана, што платы скрозь паразьбіраны і што на слупкох не вароты, але адно „цьфу“ толькі.

Але, можа гэтак і трэба. Паліцэйскі — пацираючы рукі выйшаў, забыўшы ад радасьці аб сваім начальніцкім тоне, бо заместа аднаго пратаколу меў цэлых пяць, а гаспадар, зачыняючы за гасьцём дзьверы, таксама цешыўся, што ўсё гэтак добра скончылася.

Толькі праз нейкі месяц аказалася, што ня так гэта добра было, як яму здалося.

І яго і Баравіка, і Гармяністага, і Бабраўскую аштрафавалі па 10 злотых кожнага.

Падняўся ў вёсцы гвалт, і калі дазналіся, што гэта ўсё, дзякі нашаму гаспадару, — суседзі амаль ня зьелі яго, а асабліва Бабраўская. Тая дык проста жыць яму не давала і кляла на чым сьвет стаіць, звычайна, як баба. Аштрафованыя хацелі жаліцца, але пакуль надумаліся, — прышоў адказ, што ўжо позна і штраф трэба было заплаціць.

Вось, дарагія чытачы, як скончылася ў ваколіцы справа з гэтым, роўным для ўсяе Вільні законам.

Якая-ж адсюль навука?

А вось якая:

Закон трэба пісаць асьцярожна, каб заместа дабра для грамадзян, якое мае на мэце закон, ня выйшла часам так, як з гэтымі дошкамі пры слупку, якія паводлуг закону, растлумачанага самым найменшым начальствам, былі варотамі, а па думцы гаспадара ваколіцы адно „цьфу“ і нічога болей.

І пішучы закон, трэба таксама ведаць, што нават і ў Вільні ня можна ўсіх ботаў шыць на адзін капыл.

*Д. П.*

---

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

Настаўнік да шкаляроў III-яй клясы:

— Дрэнна, дзеткі, дрэнна: я ведаю — паміж вамі ёсь гэткія неразумныя хлопцы, якія, ведаючы што тутун — страшэнная атрута, асабліва для малых, — пачынаюць ужо курыць цыгаркі.

— Не, пане настаўніку, мы ўжо ў III-яй клясе кідаем курыць іх.

* * *

— Любіш мяне, Міхалка?!

— Люблю, Ганулечка!

— А ці моцна любіш?

— Вельмі моцна!

— Дык запей песьню, але гэткую, каб спэцыяльна аба мне была.

— З вялікай ахвотай, Гануля!

— „Ото дзеўка, ото хват,
Што на ўсе тут вёскі,
Хоць павесь на добры лад,
Дык шкада бярозкі“...

---

# Процібальшавіцкі беларускі рух на Усходзе.

## III.

### „Нацыяналізм“ і „нацыяналь-дэмакратызм“.

Наша маладая беларуская інтэлігэнцыя ўся паходзіць з вёскі. Гэта яе характарная адзнака. І калі мы пачынаем гаварыць, што на Усходзе пад Саветамі сялянству жывецца дрэнна, што вёска перажывае там глыбокі крызыс, крызыс зямельнага голаду і эканамічнага заняпаду, то павінны чакаць, што і сярод інтэлігэнцыі гэты крызыс знойдзе сабе месца.

Чаму? Па першае, што баліць бацьку, то баліць і сыну. Па другое, беларуская інтэлігэнцыя, як народніцкая, прывучана да таго, каб шчыра бараніць сялянства, калі яму робіцца крыўда.

Апошнія весткі, якія мы маем з Усходу, кажуць якраз аб тым, што сярод інтэлігэнцыі пачынаецца рух і рух гэты накіраваны выразна проціў камуністычнае ўлады. Рух гэты захапляе перад усім моладзь, як найбольш актыўны і ўражлівы элемэнт. Але зачапляе ён і старую, адраджэнскую інтэлігэнцыю, якая разумеець, што палітыка бальшавікоў можа давясьці Беларусь і беларускі народ да згубы. Возьмем, напрыклад, пытаньне перасяленьня беларусаў у Сыбір. Бальшавіком ходзіць тут перад усім аб тое, каб пазбавіцца незадаволеных, ажабрачаных сялян і забясьпечыць сябе ад нацыянальна - соцыяльных узрываў у будучыні. Дзеля гэтага яны ідуць па лініі карыснай для сябе. З лёгкай рукі яны пастанаўляюць перасяліць у Сыбір аж 1.000.000 сялян і робяць гэта, ўжываючы і ашуканства і агітацыю, і прымус.

Беларус на пытаньне перасяленьня глядзіць інача. Ён шукае прычынаў эканамічнага заняпаду селяніна і хоча ісьці па сваёй лініі, хоча, каб беларусам было добра на сваёй бацькаўшчыне. Беларус разумее, што ня толькі ў адным зямельным голадзе справа, а што ёсьць у камуністых і нейкая няпэўнасьць і не-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як павінны выглядаць нашыя хаты і памешканьні.

Прыглядзьмася да нашых вёсак і памешканьняў. Які від кінецца нам у вочы? Лужы на вуліцы, гразь па костачкі ва падворку, перад дзьвярмі сьметнік, гной сьвеціць, быццам люстра, ўсюды параскіданае гаспадарчае прыладзьдзе, а сярод гэтых упрыгожаньняў стаіць дом! Трудна даць гэты назоў нейкаму чатырохкутніку, што мае адны толькі дзьверы, пару дзіраў, якія прыпамінаюць ваконцы ў добрых стайнях, на страсе замест коміна бляшанае вядро бяз дна і — хіба як упрыгожаньне — старчаць крокві і жэрдкі ўсялякае даўжыні. Сьмяяцца ці плакаць, гледзячы ва гэта? Нават найгоршы з тых, хто ва ўсё глядзіць так сабе, мусіць праходзячы адчуць нейкае ўражаньне, калі гляне на гэткую хату. Толькі тыя, хто ў ёй жыве, лічаць, што яна зусім у парадку.

Здавалася-б, што ў мястэчку, дзе ёсьць улады на месцы, людзі болей дбаць будуць аб эстэтычным выглядзе сваіх сялібаў, а тымчасам — гэта йначай: вазьмем хоць-бы Маладзечна, павятовае места — няма там а ніводнага дому, які звонку выдаваўся-б мажлівым, а ў сярэдзіне выгодным; затым Дунілавічы, з якіх павятовае староства перанесена ў прыгажэйшыя Паставы і г. д. і г. д.

Заўсёды гаворым і чуем аб поступе: ці словы гэтае невядомае нашым домаўласьнікам у вёсках і мястэчках? То-ж гэтае слова ня значыць нічога іншага, як заўсёднае пасоўваньне ўперад, паляпшаньне, разьвіцьцё кожнае галіны прыватнага жыцьця. Калі земляроб паляпшае сваю гаспадарку ўжываньнем успамагальных прыладаў, гною, адборнага гатунку збожжа для пасеву, дык гэтак-жа сама павінен імкнуцца да такое зьмены і ў вымогах штодзённага жыцьця. З прыкрасьцяй трэба сказаць, што вымогі тутэйшага насяленьня ў сэнсе памешканьняў зьяўляюцца вельмі першабытнымі. Найчасьцей памешканьне складаецца з аднаго пакою, вялізарную часьць якога займае печ, дзе звычайна (на вёсцы ледзь не заўсёды) сьпяць людзі. Сапраўды, калі бачым гэткую печ, а на ёй грамаду замурзаных дзяцей, дык чалавек упадаеш у ілюзію, быццам ты перанесены з культурнага краю на дзікія Полінэзійскія астравы.

Пры перабудаваньні старых або будаваньні новых хатаў, заўсёды трэба ня толькі датарноўвацца да будаўляных правілаў, якія даюць гарантыю трываласьці і бясьпечнасьці будынкаў; трэ' абавязкова рабіць поступ: будаваць свае хаты па магчымасьці абшырней і праз кароткі час перакапаемся ў тым дабрадзействе, якое даець нам абшырнае выгоднае памешканьне.

Гэта-ж у памешканьні чалавек праводзіць тры чэцьверці свайго жыцьця, ад памешканьня ў вялікай меры залежыць здароўе дружыны, дык і ня трэба лёгкаважыць яго устройства; мы павінны ў гэтым выпадку быць гэтак сама дбалымі, як і аб рэшце свайго дабра.

Каб мець дом паводле сучасных выгадаў, дык пэўна-ж трэба трымацца будаўляных правілаў, аднакжа яны ня кажуць, з колькіх пакояў мае складацца памешканьне, з колькіх уваходаў, якая павінна быць печ і г. д. Тут гаспадар сам павінен выказаць поступ у сваіх і свае дружыны вымогах, дый будаваць так, каб гэтыя вымогі былі супакоены. Калі дружына значная, дык хата павінна мець хоць-бы два пакоі, асоб-

---

даверые да беларусаў, ёсьць крыўда. Зусім разумна і зусім справядліва беларус ставіць там пытаньне так: калі выганяць з Беларусі ў Сыбір — каго-небудзь, то ў першую чаргу трэба выганяць чужынцаў, якія панаехалі на Беларусь за царскімі і савецкімі часамі з мэтаю жыраваць на целе народным. Трэба выганяць розных савецкіх чыноўнікаў з Маскоўшчыны і замяняць іх беларусамі, трэба так зьмяніць уладу, каб яна дбала перад усім аб інтарэсах беларусаў. Адным словам, як і тут у Польшчы, але ў другіх формах, пытаньне „асадвіцтва" стала пытаньнем балючым і палітычным і стварае грунт дла нацыянальных конфліктаў паміж расейскім элемэнтам і беларусамі. Камуністы падтрымліваюць расейскі элемэнт — адгэтуль конфлікт паміж беларускаю інтэлігэнцыяй і ўладаю.

Беларусь для беларусаў! вось лёзунг нацыяналістычны, шовіністычны, лёзунг фашыстоўскі. Але з песьні слова ня выкінеш — гэты лёзунг мае найбольш прыхільнікаў сярод сьвядомых сыноў бацькаўшчыны на Ўсходзе. Мы зусім не зьяўляемся абаронцамі гэтага лёзунгу, бо лічым, што беларускі народ павінен жыць у згодзе з усімі народамі і сваімі суседзямі, і ў тым ліку з нац. меншасьцямі краю. Але мы разумеем, што ў пэўных гістарычных і палітычных абставінах беларус мусіць на удар — адказваць ударам, на нацыяналізм маскоўскі адказваць нацыянальнаю абаронаю сваіх правоў. І гэты абаронны нацыяналізм мы можам ня толькі разумець, але і шанаваць і моральна падтрымліваць. Ганьба ня тым, хто бароніцца ад зладзеяў — ганьба тым, хто нападаець на нас і хоча нас абабраць.

Другое пытаньне, якое дражніць нацыянальнае пачуцьцё беларускага інтэлігента і селяніна — гэта пытаньне жыдоўскага „асадніцтва". Будзем зусім шчырымі і выкажам свае думкі. Беларусы ў мінулым ніколі ня былі антысэмітамі. Жыдоўскіх пагромаў Беларусь, дзякуй Богу, ня ведала і ня знала. Цяжкі лёс нявольнікаў царызму і бясправае беларусаў і жы-

ную кухню, варыўню (сьцёпку); пры меншай дружыне — неабходны адзін абшырны пакой, кухня і варыўня. Гэта памешканьні вельмі малыя, але хоць і ў малой меры, а паправяць нашыя бытавыя варункі.

Што датычыць кухні, дык робім вялікі націск, каб яна будавалася асобна ад пакою, і спаць у ёй нельга, бо гэта з усіх бакоў няздорава і негігіенічна. Кухня павінна быць толькі кухняй і больш нічым. За граніцай нідзе ня знойдзеце, каб у кухні спалі ці елі. Чэхі, напр., звычайна маюць дзьве кухні: адну летнюю, другую зімовую. А мы дык хоць на адной стрымаймася! Ёсьць ведама, калі можам мець хату, аб якой пішам, дык ня можа быць у ёй „печы"; найадпаведнейшая кухня, каб варыць страву — гэта так зван. ангельская, пры ёй умуроўваецца печка, заб мець заусёды гарачую страву; гэткая кухня — выгадная, няшмат займае месца, яе можна чыста ўтрымаць і яна культурная. Ведама, што печ, каб хлеб пячы, павінна быць таксама, але ня трэба ў ёй варыць стравы, бо гэта сапраўды не да твару дваццатаму веку.

Яшчэ пара словаў аб будаваньні вокнаў, гэтага важнага рэгулятара паветра ў памешканьні. Вокны павінны быць вялікія і ўсе павінны адчыняцца, каб якнайбольш паветра магло ўвайсьці ў памешканьне. У кожным пакоі хоць адно вакно павінна мець фортку і адчыняць яе ўзімку бязумоўна, ня гледзячы на найбольшыя маразы. Калі вокны добра агледжаны, дык адчыненая фортка ня толькі зімою не зашкодзіць, а наадварот—асьвяжыць паветра ў пакоі.

У канцы дадамо, што і аб вонкавай форме хаты трэба помніць. Хата павінна быць акуратна дакончана, а знач. бяз высунутых кроквау і жэрдак, комін з цэглы, ад фронту — малы ці большы ганак, залежна ад велічыні хаты, перад хатаю гародчык з кветкамі ці хоць-бы гароднінай, заўсёды падмецены падворак— вось мілы вясковы абразок, на якім ласкава спыніцца вока ўласьніка і падарожнага, бо: „Як цябе бачаць, так аб табе й пішуць".

## Гаспадарчыя парады.

### Што і на якой зямлі сеяць?

Аб лубіне на насеньне можна сказаць, што яго лепш сеяць на зімовай ральлі пад барану.

Авёс на мокрых мясцох, пад'золістых, глівістых, можна сьмела сеяць пад саху.

Ячмень любіць мякка выраблёную зямлю, і калі ральля з восені ня выраблена добра, то яе трэба беспраменна хаця-б яшчэ і два разы перагараць вясною.

Гарох не баіцца недаробленай пахаты, яго лепш сеяць пад саху, а не барану, бо круглыя гарошыны перакачваюцца і не закрываюцца баронамі.

Пад бульбу трэба акуратна і глыбока араць, вясной найлепш працаваць спружыновай бараной — гэта найлепшая прылада пры нашых сухіх веснах.

### Час севу.

Спачатку трэба сеяць канюшыну па азіміне, калі яшчэ мокра і ўвесь сьнег ня зышоў; тады яе дробненькія зярняты ў мокрую зямлю скарэй улазяць, як у сухую.

Сарадэлю таксама можна сеяць па жыце ці на чыстае поле, яна не баіцца марозу, а засеяная пазьней — дрэнна расьце.

Авёс наш народ сее найчасьцей, калі дрэва распускаецца.

---

доў рабіў тое, што паміж абодвымі народамі была згода не на паперы, не ў законах, а ў жыцьці; было супрацоўніцтва.

Бальшавікі зруйнавалі эканамічна мястэчка, як зруйнавалі і нашу вёску. Местачковыя жыды на Ўсходзе такія-ж самыя жабракі, як і нашыя сяляне. І каб пазбавіцца назадаволеных жыдоў бальшавікі не маглі нічога лепшага прыдумаць, як садзіць жыдоў на беларускую зямлю, на тую зямлю, якую беларускі селянін спрадвеку абліваў сваім потам. Вось перад намі словы камісара Чарвякова (гл. Полымя" № 5—1926 г.).

„Спыняюся на нашых эканамічных мерапрыемствах, якія палягчаюць становішча жыдоўскага насяленьня. Мы выбралі два шляхі: 1) Надзяленьне жыдоўскага насяленьня зямлёю, 2) Залучэньне іх на фабрыкі і заводы. У мінулым годзе (1925-м) нам удалося прыстроіць каля 5000 душ жыдоўскага насяленьня на зямлю, вылучаючы дзеля гэтага патрэбны зямельны фонд каля 10,000 дзесяцін.

У гэтым годзе (1927) надзяленьне жыдоў зямлёю пойдзе некалькі марудней, але ўсё-ж такі мы думаем прыстасаваць для жыдоў каля 5000 дзесяцін. Ад'значу, — кажа далей камісар Чарвякоў, — што нашыя мерапрыемствы ў гэтым кірунку сустракаюць шчырае падтрыманьне з боку беларускага сялянства. (?!)

Ці-ж не насьмешкаю і правакацыяй зьяўляюцца гэтыя словы ў той час, калі гаворыцца аб „зямельным голадзе" і аб перасяленьні мільёну беларусаў у Сыбірскую тайгу, калі ў галіце сотні тысяч местачковага жыдоўства, калі селяніну няма чаго есьці і пераходзіць на мякіну, калі лапці і зрэбныя кашулі зьяўляюцца тыповаю вопраткаю беларуса!

Мы падалі толькі адзін прыклад, на грунце якога паўстае рух сярод інтэлігэнцыі. Можна было-б прывясьці яшчэ шмат прыкладаў, якія гавораць аб згубнасьці эканамічнае, адміністрацыйнае і нацыянальнае палітыкі бальшавікоў у адносінах да беларусаў.

І вось пачынаецца той рух, які бальшавікі ахрысьцілі „беларускім нацыяналізмам" і „нацыянальдэмакратызмам", і які правільней было-б назваць нацыяльна-рэвалюцыйным рухам, беларускага народу.

Бязумоўна, што ня ўся інтэлігэнцыя прымае

Калі канюшыну сеяць пад ячмень, трэба старацца раней сеяць.

Бульба ня любіць халоднае зямлі, яе садзяць, калі ўжо пройдзе страх на маразы, калі ўжо красуюць яблыні і грушы.

### Вясною захоўвайце сьвіней ад чумы.

Чума сьвіней — заразьлівая хвароба.

Заражэньне бывае, галоўным чынам, цераз прыманьне заражонага корму, потым цераз падсьцілку, пасуду і г. д. У здаровыя гаспадаркі хвароба заносіцца больш усяго хворымі сьвіньнямі. Пераносу заразы спрыяюць кірмашы.

Заражэньне бывае таксама і на пашы, у час перагону, перавозкі ў вагонах, у якіх перад гэтым былі хворыя сьвіньні.

Захворваюць большай часткай парасяты 4 — 5 месяцаў, але старыя сьвіньні так сама заражаюцца.

Першай ад'знакай хваробы служыць памяншэньне пазыву на яду; захварэўшыя хаваюцца ў вугал, апэтыту няма, або зусім не ядуць і ляжаць на адным месцы. Калі іх падганяюць, то яны ледзьве пераходзяць, стаяць доўга на адным месцы, згорбіўшы сьпіну і апусьціўшы галаву.

Зьяўляецца запаленьне некаторых мясцоў, вачэй, выдзяленьне гною і на першы ці на другі дзень хваробы — ваніты, затым у скорасьці панос, прычым бывае часам крывяністым. Хворыя сьвіньні звычайна надта слабеюць і падаюць на 4—7 дзень хваробы, або хвароба пераходзіць у хранічную наогул форму.

Пры куплі жывёл патрэбна старацца трымаць чыстату ў сьвінухох, часьцей праветрываць, ня пасьвіць разам з хворымі сьвіньнямі.

### Крэдыты на насеньне для Навагрудчыны.

З 50.0000 злотых, асыгнованых Міністэрствам Землеродства на помач для пацярпеўшых ад неўраджаю ў Навагрудчыне, Навагрудзкі Камітэт Зямельнае Помачы падзяліў паміж паветамі гэтакім чынам:

| | |
|---|---|
| Навагрудзкі | 80.000 зл. |
| Нясьвіскі | 70.000 „ |
| Стаўпецкі | 50.000 „ |
| Валожынскі | 65.000 „ |
| Лідзкі | 85.000 „ |
| Слонімскі | 65.000 „ |
| Баранавіцкі | 85.000 „ |

Пазыкі будуць выдавацца на год (да 1 сакавіка 1928 г.) за $5^1/_2$% у год і толькі тым гаспадаром, якія маюць зямлі ня больш як 25 гэктараў.

Сяляне, якія хочуць адтрымаць пазыку, павінны складаць просьбы да паветовых Kas Spółdzielczych і павінны запісацца ў сябры Касы. Найменшая пазыка будзе 50 зл., найбольшая 200 зл.

### Цэны сельска-гаспадарчых прадуктаў у Вільні

*на 15-га Сакавіка.*

#### Цэны на збожжа:

Жыта—ад 42 зл. 50 гр. да 43 зл. 50 гр. за 100 кілёгр.
Авёс—ад 38 да 41 за. 100 кілёгр.
Ячмень браваровы—ад 39 да 42 зл. за 100 кілёгр.
Ячмень на муку—ад 34 да 35 зл. за 100 кілёгр.
Жытнія атрубы—ад 30 да 31 зл. за 100 кілёгр.
Бульба—ад 8 зл. 50 гр. да 10 зл. за 100 кілёгр.
Цэны стаяць моцныя. Давоз умяркованы.

#### Цэны на насеньне:

Сарадэля—ад 36 зл. да 37 зл. за 100 кілёгр.
Лубін—ад 30 зл. да 34 зл. за 100 кілёгр.
Канюшына белая з дамешкай шведзкай—ад 360 да 380 зл. за 100 кілёгр.
Канюшына белая чыстая — ад 380 да 400 зл. за 100 кілёгр.
Авёс на насеньне—ад 44 да 48 зл. у залежнасьці ад гатунку.

#### Цэны на муку:

Мука пшанічная амэрыканская—ад 90 гр. да 1 зл. за 1 кілёгр. у гурце і ад 1 зл. да 1 зл. 10 гр. за 1 кілёгр. у розьніцы.

---

актыўны удзел у гэтым руху. Частка, найгоршая частка беларускае інтэлігэнцыі падлізваецца да камуністых, каб дастаць сабе добрыя пасады. Да гэтых падлізаў трэба аднясьці і тых беларускіх інтэлігэнтаў, якія вярнуліся ў Менск з эміграцыі, альбо з Польшчы і, хочаш ня хочаш, змушаны хваліць бальшавікоў, каб апраўдаць сваё здрадніцтва. Але большасьць інтэлігэнцыі як гораду, так сама і вёскі пачынае актыўна выступаць проціў бальшавікоў і шкодзіць ім усюды.

Ня будзем пералічваць імёнаў тых, хто прымае удзел у гэтым новым беларускім руху, накіраваным проціў Масквы, бо ведама добра, што рух гэты ня зусім легальны. Скажам толькі, што ворагі маскоўскага ладу часам сядзяць і ў савецкіх установах, і ў коопэратывах, у культурных арганізацыях. Для будучыны, для вызваленьня бацькаўшчыны гэтыя людзі могуць мець неацавімае значэньне, бо думкі іх і пачуцьцё іх прайшло праз агонь і ваду тэрору.

Каб наш чытач меў больш-менш поўнае паняцьце аб тым, што гэта за рух, падаем у кароткіх словах галоўныя лёзунгі праграмы і тактыкі „нацыянальдэмакратызму“.

Па першае: агульны нацыянальны беларускі фронт, роўнасьць селяніна, работніка і інтэлігента; барацьба з маскоўскаю дыктатураю і устанаўленьне беларускае дэмакратычнае дзяржавы. Высяленьне з Беларусі варожых беларускаму адраджэньню чужынцаў (прэч з Беларусі маскоўскіх камісараў!) Беларусь у першую чаргу для беларусаў. Па другое: у галіне чыста сялянскага пытаньня: а) арганізацыя сялянскага саюзу, падзел земельнага фонду, ліквідацыя гэтак званых Саўхозаў (савецкіх гаспадарак), зьмяншэньне падаткаў, агульная бясплатная школа для сялян*), зьмяншэньне цэнаў на сельска-гаспадарчыя

*) Апошні лёзунг разьбівае легенду аб тым, што на Ўсходзе Беларусі — ёсьць нейкае культурнае адраджэньне. Запраўды школа больш-менш адбудована толькі ў горадзе, дзе задаволена каля 70% дзяцей. На вёсцы-ж усюды школа платная і задаволена ёю толькі каля 30% дзяцей, менш чымсь за царскімі часамі.

Мука пшанічная краёвая 50%—ад 90 гр. да 1 зл. 60%—ад 75 гр. да 85 гр. за 1 кілёгр.

Мука жытняя 50%—ад 60 да 65 гр. за 1 кілёгр. 60% ад 55 да 60 гр. і непрасеяная ад 40 да 45 гр. за 1 кілёгр.

Мука: бульбяная—ад 80 да 90 гр. за 1 кілёгр.
грачаная—ад 60 да 70 гр. за 1 кілёгр.
ячменная—ад 55 да 60 гр. за 1 кілёгр.

### Цэны на хлеб:

Хлеб пітляваны першы сорт.
50%—ад 60 да 65 гр. за 1 кілёгр.
60%—ад 55 — 60 гр. за 1 кілёгр.
Просты чорны—ад 40 да 45 гр. за 1 кілёгр.

### Цэны на крупы:

Крупы манныя амэрыканскія—ад 1 зл. 50 гр. да 1 зл. 60 гр. за 1 кілёгр.

Крупы манныя краёвыя—ад 1 зл. 15 гр. да 1 зл. 25 гр. за 1 кілёгр.

Крупы грачаныя цэлыя—ад 80 да 90 гр. за 1 кілёгр.
Крупы грачаныя перацёртыя—ад 85 да 95 гр. за 1 кілёгр.
Крупы пэрловыя—ад 80 да 95 гр. за 1 кілёгр.
Пансак—ад 70 да 80 гр. за 1 кілёгр.
Ячменныя крупы—ад 70 да 80 гр. за кілёгр.

### Цэны на мяса:

Валовае—ад 2 зл. да 2 зл. 20 гр. за 1 кілёгр.
Цяляціна—ад 1 зл. 10 гр. да 1 зл. 50 гр. за 1 кілёгр.
Бараніна—ад 2 зл. 20 гр. да 2 зл. 40 гр. за 1 кілёгр.
Сьвініна—ад 2 зл. 50 гр. да 2 зл. 60 гр. за 1 кілёгр.
Хрыбяціна—ад 2 зл. 80 гр. да 3 зл. за 1 кілёгр.
Бачок—ад 2 зл. 80 гр. да 3 зл. за „

### Цэны на сланіну:

Сланіна краёвая I гат. — ад 4 зл. да 4 зл. 20 гр. за 1 кілёгр.

Сланіна краёвая II гат. — ад 3 зл. 50 гр. да 3 зл. 80 гр. за 1 кілёгр.

Шмалец сьвіны—ад 4 зл. 50 гр. да 4 зл. 80 гр. за 1 кілёгр.

Сала—ад 3 зл. 80 гр. да 4 зл. за 1 кілёгр.

### Цэны на малочныя прадукты:

Малако—ад 30 да 35 гр. за літр.
Сьмятана—ад 2 зл. 20 гр. да 2 зл. 30 гр. за літр.
Тварог—ад 1 зл. да 1 зл. 50 гр. за 1 кілёгр.
Сыр тварожны—ад 1 зл. 80 гр. да 2 зл. за 1 кілёгр.
Масла несалёнае—ад 7 зл. да 7 зл. 50 гр. за 1 кілёгр.
Масла салёнае—ад 5 зл. 50 гр. да 6 зл. за 1 кілёгр.
Масла найлепшае—ад 7 зл. 80 гр. да 8 зл. за кілёгр.
Яйкі—ад 1 зл. 80 гр. да 2 зл. за 10 штук.

### Цэны на агародзіну:

Цыбуля—ад 80 гр. да 1 зл. за кілёгр.
Морква—ад 20 да 25 гр. за кілёгр.
Пятрушка—ад 15 да 20 гр. за пучок.
Бурачкі—ад 20 да 25 гр. за 1 кілёгр.
Агуркі салён.—ад 10 да 12 зл. за 100 шт.
Гарох—ад 55 да 65 гр. за 1 кілёгр.
Фасоля—ад 65 да 70 гр. за 1 кілёгр.
Капуста сьвежая—ад 50 да 60 гр. за 1 кілёгр.
„ кваш.—ад 35 да 40 гр. за 1 кілёгр.
Яблыкі—ад 60 да 1 зл. 20 гр. за 1 кілёгр.
Грушы—ад 60 да 1 зл. 20 гр. „ „

### Цэны на цукер:

Крышталь у гурце—1 зл. 30 гр. да 1 зл. 35 гр., ў розьніцы 1 зл. 35 гр. да 1 зл. 40 гр. за 1 кілёгр.

Костка ў гурце 1 зл. 55 гр., ў розьніцы 1 зл. 75 гр. за 1 кілёгр.

### Цэны на птушкі:

Куры—ад 3 зл. да 6 зл. за штуку.
Качкі жывыя—ад 4 зл. да 8 зл.
„ бітыя—ад 4 зл. да 6 зл. за штуку.
Гусі жывыя—ад 12 зл. да 15 зл. за штуку.
„ бітыя—ад 8 зл. да 12 зл. за штуку.

### Цэны на рамень:

Скуры краёвага вырабу на падноскі—ад 10 зл. да 14 зл. за 1 кілёгр.

Хром—ад 2 зл. 70 гр. да 4 зл. 50 гр. за стапу.
Гемза—ад 4 зл. 50 гр. да 6 зл. 50 гр. „

### Цэны на дровы:

Сасновыя—ад 10 зл. да 14 зл. за воз.
Бярозавыя—ад 11 зл. да 14 зл. за воз.

### Цэны на Варшаўскай біржы:

Жыта—ад 55 зл. 45 гр. да 41 зл. 50 гр. за 100 кілёгр.
Пшаніца—ад 55 зл. да 56 зл. 50 гр. за 100 кілёгр.
Ячмень браваровы—38 зл. за 100 кілёгр.
Ячмень на муку—34 зл. за 100 „
Авёс—ад 34 зл. да 36 зл. за 100 кілёгр.

---

машыны, тавары і г. д. Нельга сказаць, каб нацыяналь-дэмакратычны беларускі рух на Ўсходзе быў добра арганізованы і меў апрацаваную праграму. Настроі інтэлігэнцыі, якая надае гэтаму руху характар руху палітычнага, яшчэ не скрышталізаваліся настолькі, каб можна было гаварыць аб нацыяналь-дэмакратызьме, як аб паважнай палітычнай сіле. Перашкаджае руху таксама і тэрор Г. П. У.

У адным Менску ёсьць каля 800 агентаў-шпікоў, галоўным заняткам якіх зьяўляецца сачэньне за настроямі беларусаў. Але нельга таксама і недацэньваць уплываў нацыяналь-дэмакратызму, які адчуваецца ня толькі сярод беспартыйнае масы, але залазіць таксама і ў арганізацыі чыста камуністычныя, як напрыклад у Інстытут Беларускай Культуры, аб'яднаньне беларускіх пісьменьнікаў „Маладняк“, у краязнаўчыя арганізацыі і г. д. Нацыяналь-дэмакратызм нішчыць камунізм усюды, дзе толькі можа і асабліва на вёсцы, дзе беларускае настаўніцтва адкрыта пачынае палітычны сабатаж камуністычнае партыі і становіцца на бок беларускага сялянства. Але найгорай для бальшавікоў тое, што і ў арміі адчуваюцца уплывы „нацыяналізацыі“, што з часам можа мець вялізарнае значэньне для будучыны Беларусі.

Мы падалі некалькі фактаў і некалькі думак нашаму чытачу аб гэтак званай Савецкай Беларусі, падалі дзеля таго, каб паінфармаваць грамадзянства аб тых новых працэсах, якія пачынаюцца на Ўсходзе і якія далёка ня сьведчаць аб перамогах камуністых, а скарэй гавораць аб банкруцтве іх палітыкі і ідэолёгіі, гавораць аб тым, што там, на Ўсходзе, насьпяваюць новыя палітычныя і соцыяльныя катастрофы.

*Мінчук.*

### Віленская біржа.

Даляр . . . . . . . . . . . . 8.93
Залаты рубель . . . . . . . . . . . $4.75^{1}/_{4}$
Закладныя лісты Віл. Зям. Банку: за 100 зл. . 45. 60

# Палітычныя навіны.

(*За тыдзень*)

У Кітаі палажэньне за апошні тыдзень зьмянілася не на карысьць эўропэйцаў. Кантонскае войска пасоўваецца наперад і падыйшло да Шанхаю. У зьвязку з гэтым, у горадзе пачаліся разрухі. Рабочыя ізноў пачалі забастоўку. Улада ўвяла палявыя суды і расстрэльвае агітатараў. У горадзе Нанкіне таксама паніка. Амэрыканцы і Ангельцы выехалі з гораду, бо чакаюць з дня на дзень заняцьця яго кантонцамі.

Найбольш важным здарэньнем за апошні тыдзень было падпісаньне Савецка-Латвійскае умовы аб ненападзеньні і нэйтральнасьці абодвых старон. Саветы на гэтай умове бязумоўна выгралі, бо разьбілі адзіны фронт балтыцкіх дзяржаваў, а ці выгралі на гэтым Латышы пакажа блізкая будучына. Латыскі міністар заграничных справаў Цэленс бязумоўна зрабіў тут памылку, што выступіў сэпаратна бяз згоды Эстоніі, Фінляндыі, Польшчы і іншых дзяржаваў. Памылка яго ня толькі ў тым, што ён ізоляваў Латвію ад іншых незалежных рэспублік, але і ў тым, што нацыянальна сьвядомы элемэнт Латвіі вельмі нездаволены гэтаю умовай і ў Рызе мы можам чакаць з часам такіх самых пераваротаў, якія нядаўна мелі месца ў Коўне, пераваротаў чыста фашыстоўскага, нацыяналістычнага характару. У зьвязку са сьмерцю Латыскага прэзыдэнта Чакстэ, якая адбылася 14 сакавіка г. г., унутраная сытуацыя ў Рызе яшчэ больш пагоршылася. Усе партыі, за выняткам соцыялістычных, выступаюць проціў Ураду і проціў яго заграничнае палітыкі.

Выграўшы на латвійска-савецкай умове, бальшавікі за апошні тыдзень шмат прагралі на Бэсарабіі. У зьвязку з тым, што Італія прызнала Бэсарабію за Румыніяй, адносіны паміж Італіяй і Саветамі папсаваліся. Савецкі пасол у Рыме Каменеў падаўся ў адстаўку. Наогул апошнямі часамі Італія мяняе сваю палітыку ў адносінах да Саветаў і хоча беспасрэдна праз Румынію і Югаславію, — дзе таксама ўзмацніліся уплывы Італіі,—запанаваць на ўсім Сярод'земным Моры, што прывядзе да вострых конфліктаў паміж Рымам і Масквою.

* * *

На адным з апошніх паседжаньняў конституцыйнае камісіі Сойму эндэцкі пасол Гломбінскі ў часе дыскусіі над проектам новага закону аб выбарах у Сойм і Сэнат, зрабіў прапазыку, каб на абшарах, на якіх маюць сілу г. зв. языковыя законы, падзяліць выбаршчыкаў на дзьве куры—польскую і няпольскую.

Варшаўская газэта „Epoka“, падаючы гэтую вестку, піша, што гэтая прапазыка нішто іншае, як „адзін з спосабаў абмежаваць прадстаўніцтва нацыянальных меншасьцяў ў парлямэнце“.

У зьвязку з гэтым паслы нацыянальных меншасьцяў, якія ўваходзілі ў конституцыйную камісію, на знак протэсту пакінулі салю паседжаньняў і зложылі дэкларацыю, ў якой, сьцьвярджаючы, што прапазыка пасла Гломбінскага пярэчыць 11 і 36 арт. конституцыі (дзе гаворыцца аб тым, што выбарнае права для ўсіх грамадзян бяз розьніцы нацыянальнасьці веры — роўнае і прапарцыянальнае), здымаюць з сябе адказнасьць за гэты гвалт над асноўнымі законамі Рэспублікі. Дэклярацыю ад імя беларускага і украінскага клюбаў падпісаў украінскі пасол Хруцкі, ад жыдоўскага кола пасльі Гартгляс і Шрэйбэр, і ад нямецкае сувязі пасол Кронік.

У той час, як пастуховая польская прэса крытычна адносіцца да прапазыкі пасла Гломбінскага абмежаваць правы нац. меншасьцяў, — эндэцкая, хадэцкая і пястоўская прэса тлумачыць яе, як неабходнасьць „дзеля карысьцяў Польскае дзяржаўнасьці“ (?!)

Аднача́сна з гэтым беларускі пасол Ярэміч пакінуў адміністрацыйную камісію Сойму, протэстуючы проціў прыняцьця камісіяй 56 арт. проекту закону аб самаўрадзе.

*Аглядчык.*

# Аб усім патроху.

### Дапамога насяленьню ўсходніх ваяводзтваў.

У Міністэрстве Унутраных Справаў скончыліся нарады аб адбудове зьнішчаных абшараў усходніх ваяводзтваў. У нарадах гэных, апрача міністра, прымалі учасьце ваяводы: Навагрудзкі, Палескі, Валынскі, Беластоцкі.

Нарада гэная скончылася прыняцьцем некалькіх пастановаў, якія пойдуць на разгляд Рады Міністраў.

Пастановы гэныя, паміж іншым, дамагаюцца дзяржаўнай дапамогі для насяленьня зьнішчаных абшараў у постаці грашовага крэдыту і выдачы матар'ялаў для будовы.

### Колькі інвалідаў мае Францыя?

На 1 студня сёлетняга году ў Францыі адтрымлівалі інвалідзкай пэнсіі 708,591 военных інвалідаў. Паміж імі 404.606 інвалідаў мелі пакалечаныя рукі альбо ногі; хворых на лёгкія было — 235.884; на вочы — 27.281; на вушы — 17.730; хворых псыхічна — 14.502; і з папсованымі тварамі 8.588 інвалідаў.

### Арыгінальны конкурс.

Ў Чэхіі нядаўна быў абвешчаны конкурс на пасаду ката. Ў рэзультаце 59 асоб прыслала просьбы, сярод якіх былі: доктар тэолёгіі, кравец, збанкрутаваўшы купец, артысты, жанчына без забабонаў, гумарысты і літэратар, вучань, афіцэр рэзэрвы і адно з фільмавых таварystваў, якое запрапанавала бясплатна вешаць асуджаных за права рабіць зьнімкі.

# Паштовая скрынка.

Глыбокае. Стоцiку. Тыднёвік будзем высылаць з 1-га нумару па прысланым адрэсе.

Вёска Васількі. М. Бажэлка. Тыднёвік высылаем.

Вёска Дуброва. Н. Хмялеўскі. Газэту высылаем па прысланым адрэсе, а таксама і паштовыя маркі; чакаем корэспондэнцыі.

В. Лушына. Пётр Сьлізкі-Гірын. Газэту будзем высылаць. Грошы найлепш перасылаць паштовым пераводам па адрэсе адміністрацыі „Б. Д.“, Wilno, Cicha 4 m. 20.

В. Мільча, грамадз. Бекарэвічу. Пішэце аб усім, што датыча жыцьця вашае аколіцы ў тэй мове, якую ведаеце. Маем надзею, што чытаючы „Б. Д.“ пазнаеце і будзеце любіць мову тых людзей, паміж якімі жывеце.

Вёска Зарачы. Зыдар Зарак. На варункі Вашы згаджаемся, прысланую корэспондэнцыю выкарыстаем у наступным нумары.

В. Жэрлакі. А. Сушко. За прысылку корэспондэнцыі дзякуем. Нажаль выкарыстаць яе ня можам, бо вершы няўдалыя. Пішэце лепш аб тым, што чутно ў вашай ваколіцы, асабліва аб тым, што памагае і што шкодзіць жыцьцю селяніна. Толькі ведаючы гора і радасьці вёскі, „Б.Д“ патрапіць запраўды памагчы беларусу-селяніну.

Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń“ Друк. „Pax“, вул. Сьв. Ігната 5.